


СПАДАРОЖНІКАВАЕ! ● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.



**Мікалай Фірулёў:**
*- Толькі на Гарадзеншчыне ў скарбонку дзяржавы ў выглядзе падаткаў недапаступіла звыш 200 мільярдаў рублёў.*
ст. 3

***ТАНКЕТКІ З ГОРАДНІ***

**Міжваеннае дваццацігоддзе. Час, які наўмысна выкрасьлілі з гісторыі Горадні, Заходняй Беларусі.**



ст. 7




У выходныя будзе хмарна, з праясьненьнямі, часамі мокры сьнег і сьнег. 15-га ўдзень слабая мяцеліца, а ўначы без ападкаў, на дарогах галаледзіца. Вецер паўднёвы з пераходам на заходні, 4-9 м/с, а 15-га ўдзень - парывы да 12-14 м/с. Тэмпература 14 сьнежня -1-6, 15-га ўначы -4-9, а ўдзень -0-5.


# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 50 (197) • 13 - 19 сьнежня 1996 г. • Кошт свабодны


## ПРАЕКТЫ ЗАСТАЛІСЯ НА ПАПЕРЫ

**Калі ў Горадні будзе наладжаны нармальны рух аўтобусаў і тралейбусаў? Што гэтаму перашкаджае?**

**Гэтыя пытаньні хвалююць, напэўна, кожнага гарадзенца, які карыстаецца паслугамі гарадзкога транспарту. Асабліва цяпер, з надыходам халадоў, калі доўгае чаканьне свайго аўтобусу ці тралейбусу ў дадатак да згубленага часу каштуе яшчэ і здароўя. Якія перспектывы ў вырашэньні гэтых праблемаў бачыць кіраўніцтва гораду? На гэтую тэму інтэрв'ю карэспандэнта «Пагоні» з начальнікам аддзелу транспарту, сувязі, тавараў і паслугаў гарвыканкаму Міхаілам Будзько.**

-Без набыцьця дастатковай колькасьці аўтобусаў і тралейбусаў гэтыя праблемы мы ня вырашым. Наш некалі кампактны горад у сувязі з разбудовай мікраёнаў Вішнявец і Дзевятоўка працягвае расьці ўшырыню. Прыходзіцца падаўжаць маршруты, а гэта павялічвае інтэрвал у руху транспарту. Набыць жа новы аўтобус сёньня праблематычна. МАЗ, які выпускае «Неапланы», просіць за самую танную сваю машыну 130 тысячаў даляраў! Тралейбус новага ўзору каштуе таксама нямала - мільярд і 600 мільёнаў. Прыходзіцца падтрымліваць у працоўным стане транспарт, які ўжо адслужыў свой век...

***- На апошняй сесіі гарадзкога савету дэпутатам паведамілі, што гарвыканкам выдаткаваў сродкі на набыцьцё пяці патрыманых аўтобусаў у Германіі...***

-Грошы, выдаткаваныя каля трох месяцаў назад да гэтага часу мы ня можам перавесьці ў валюту. Усе звароты ў Нацыянальны банк, іншыя структуры ўлады з просьбай паспрыяць у гэтым не далі пакуль выніку.

***-І ўсё ж такі, як гарадзкія ўлады плануюць вырашыць праблемы з грамадзкім транспартам?***

-Ужо з 16 сьнежня з 10 да 14.30 гадзінаў на дзевяць адзінак павінна павялічыцца колькасьць аўтобусаў на маршрутах N 3, 8, 15, 17, 20. Праўда, залежаць гэта будзе ад наяўнасьці дызельнага паліва. Сітуацыя склалася такая, што сёньня мы ведаем, што на заўтра заправіць аўтобусы ёсьць чым. Ці будзе на пасьлязаўтра - невядома. Наколькі я ведаю, у нафтабазы таксама праблемы з канвертацыяй грошай.

***-Шмат размоваў у свой час хадзіла пра новыя тралейбусныя лініі...***

-Сапраўды, планавалася злучыць аўтавакзал з чыгункай па вуліцы Будзёнага. Але асфальт пасьля рэканструкцыі вуліцы там паклалі ў папярэдніх памерах. Пры такой шырыне дарогі рух тралейбусаў забаронены. На пашырэньне ж дарогі патрэбны грошы. А іх пакуль няма. З-за гэтага не рэалізуецца магчымасьць злучыць праз Румлёўскі мост «Азот» і «Хімвалакно».

***-Ідэю будаўніцтва тралейбуснай лініі да рынку таксама «пахавалі»?***

-Праект будаўніцтва гэтай лініі, а таксама тралейбуснага дэпо N2 у раёне вёскі Вішнявец ёсьць, але работы яшчэ не пачаліся...

***-У сувязі з ростам мінімальнай заробкавай платы, напэўна, чакаецца павышэньне кошту за праезд у транспарце...***

-На міжгародніх і прыгарадных маршрутах кошты павялічацца ўжо з 13 сьнежня. Кіламетр праезду ў «міжгорадзе» ў «мяккім» аўтобусе будзе каштаваць цяпер 300 рублёў (да гэтага часу - 280). Магчыма, што ў сувязі з ростам зарплаты і коштаў на дызельнае паліва падаражаюць і квіткі ў гарадзкім таранспарце. Рашэньне пра гэта павінен прыняць аблвыканкам.

**Вітаўт Руднік**

## ХТО САРВАЎ СТОП-КРАН?

**Дэлегацыя навукоўцаў з Венгрыі і Румыніі ня здолела ўчора прыехаць у Горадню на адкрыцьцё міжнароднай канферэнцыі «Стэфан Баторы і Усходняя Еўропа яго часу».** Нягледзячы на папярэднюю дамову мадзьярскай амбасады ў Варшаве з адпаведнымі службамі Польшчы, аўтобус з навукоўцамі цэлую ноч 12 сьнежня прастаяў на польска-беларускай мяжы ў агульнай чарзе. На момант, калі рыхтаваўся гэты матэрыял, па просьбе арганізатараў канферэнцыі вырашэньнем гэтай сітуацыі займаліся супрацоўнікі Генеральнага консульства Польшчы ў Горадні.

## БІЗНЕС-СУСТРЭЧА

**Сустрэча беларускіх і польскіх бізнесменаў-вытворцаў мэблі адбылася 10 сьнежня ў генеральным консульстве Польшчы ў Горадні. Арганізавалі сустрэчу гарадзенскі аддзел беларускай Гандлёва-прамысловай палаты і Польска-Літоўская гандлёвая палата з Сувалак.**

Як паведаміў «Пагоні» загадчык зьнешэканамічнага аддзелу гарадзенскай палаты Пётр Каралёў, удзел у спатканьні ўзялі 16 польскіх і 12 беларускіх фірмаў. За дзьве гадзіны перамоваў прадпрымальнікі з абодвух бакоў мяжы здолелі знайсьці гандлёвых партнёраў, якіх шукалі месяцамі.

## СУСЕДКА ПРАПАНУЕ СУВЯЗІ

**З 4 да 6 сьнежня на Гарадзеншчыне з афіцыйным візітам знаходзіўся кіраўнік гандлёва-эканамічнай місіі пры амбасадзе Украіны ў Беларусі Яўген Федарэнка.** Мэтай візіту спадара Федарэнкі былі перамовы аб аднаўленьні ўзаемавыгадных эканамічных сувязяў паміж гарадзенскімі і ўкраінскімі прадпрыемствамі. Кіраўнік місіі наведаў вытворчае аб'яднаньне «Азот», гарадзенскі шклозавод, лідскае адкрытае акцыянернае таварыства « Лакафарба», фірму «Лідаграпраммаш», сустрэўся з кіраўніцтвам гарадзенскага аблвыканкаму. Па выніках візіту падпісаны пратакол аб намерах. Згодна гэтаму дакуманту, гарадзенскі і ўкраінскі бакі абавязуюцца спрыяць разьвіцьцю беларуска-ўкраінскіх гандлёвых сувязяў. Да прыкладу, гарадзенскія прадпрыемствы і арганізацыі, незалежна ад формы ўласнасьці, з гэтага часу могуць непасрэдна зьвяртацца ў гандлёва-эканамічную місію ўкраінскай амбасады за дапамогай у пошуку партнёраў у суседняй краіне. **Менскі тэлефон місіі: 26-92-02.**

## САЛЯРКІ НЯМА! А ЦІ БУДЗЕ ...

**Тое, што на Беларусі перыядычна ўзьнікаюць праблемы з бензінам, стала звычайнай зьявай. Гэтае паліва ці зьнікала зусім, ці даражэла, ці прадавалася ў абмежаванай колькасьці. Уладальнікі аўтамабіляў з дызельнымі рухавікамі заўсёды знаходзіліся ў лепшых умовах. Салярка была значна таньнейшай за бензін. Яе можна было набыць без асаблівых клопатаў.**

Але ўжо два тыдні на аўтазапраўках Горадні няма дызельнага паліва. Ходзяць чуткі, што, калі яно і зьявіцца, дык будзе даражэйшым за бензін АІ-93.

«Пагоня» зьвярнулася з просьбай патлумачыць сытуацыю з дызельным палівам да намесьніка генеральнага дырэктара Гарадзенскай нафтабазы Уладзіміра Ударцава.

Спадар Уладзімір сказаў, што саляркі няма, бо на нафтаперапрацоўчых камбінатах Беларусі няма нафты. Гэтыя прадпрыемствы працуюць, выкарыстоўваючы толькі адну трэць сваіх магутнасьцяў. Нафтабаза магла б купіць дызельнае паліва ў камерсантаў, але для гэтага патрэбны даляры. А іх прадпрыемства можа набыць толькі па курсу Нацбанку, што немагчыма зрабіць, бо за 15400 рублёў даляры нафтабазе ніхто не прадае. А ў выпадку набыцьця валюты па рэальнаму курсу кошт дызельнага паліва для спажыўцоў склаў бы 5300-5400 рублёў за літар. На пытаньне, ці зьявіцца салярка ў продажы ў найбліжэйшыя часы, спадар Ударцаў адказаць ня змог.

А тым часам каля аўтазаправак прадпрымальныя маладыя людзі прапаноўваюць усім ахвотнікам дызельнае паліва коштам 3500 рублёў за літар. Цікава, дзе яны набываюць даляры на яго закуп?

**З. Генаш.**




**ДЛЯ ЖЫХАРОЎ ГОРАДНІ І ВОБЛАСЬЦІ ПАДПІСКА ЗАКАНЧВАЕЦЦА 20 СЬНЕЖНЯ**

## «ЯМЩИК, НЕ ГОНИ ЛОШАДЕЙ...»

**Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя зьвярнулася ў Кабінет Міністраў рэспублікі з просьбай разгледзець магчымасьць прадаўжэньня тэрмінаў агульнарэспубліканскай перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадараньня, якая, як вядома, павінна завяршыцца да 1 студзеня 1997 году.** У прыватнасьці, было прапанавана прадоўжыць перарэгістрацыю на наступныя тэрміны: для прадпрыемстваў-рэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь без замежных укладаў у статутныя фонды — да 1 студзеня 1998 году; для прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі (сумесных, замежных) — да 1 студзеня 1999 году; для прадстаўніцтваў замежных фірмаў — да 1 студзеня 2000 году; для прадпрымальнікаў без утварэньня юрыдычнай асобы — да 1 ліпеня 1997 году. На пасяджэньні прэзідыуму БНПА, дзе прымаўся гэты зварот да ўраду, было таксама адзначана, што «правядзеньне перарэгістрацыі бяз сьпешкі будзе садзейнічаць якасьці гэтай працы, ня будзе адцягваць кіраўнікоў і сьпецыялістаў на стаяньне ў чэргах, ня будзе адпужваць замежных інвестараў ад укладваньня прамых інвес тыцыяў у эканоміку Беларусі і не прывядзе да рэзкага скарачэньня працоўных мес цаў і паступленьняў у бюджэт».

## ЛЮБІШ КАТАЦЦА, ЛЮБІ І ГРОШЫКІ ПЛАЦІЦЬ

**У Міністэрстве транспарту і камунікацыяў Беларусі распрацава на Праграма разьвіцьця прыгранічнай інфраструктуры на беларуска-польскай мяжы. Яна прадугледжвае рэканструкцыю дзейных і будаўніц тва новых пагранічных пунктаў пропуску для аўтамабільнага грузавога і пасажыр скага транспарту.** Так, плануецца комплекснае абуладкаваньне і пашырэньне пунктаў «Казловічы», «Дамачова», «Брузгі — Кузніца Беластоцкая», а таксама тэрмінала «Варшаўскі мост». Па падліках сьпецыялістаў, на рэалізацыю гэтых праектаў запатрабуецца амаль што 64 мільёны ЭКЮ. Як вядома, вырашэньне праблемы паскарэньня пропуску аўтатранспартных сродкаў праз беларуска-польскую мяжу зьяўляецца састаўной часткай мадэрнізацыі транспартнага калідору N 2 Берлін—Варшава—Менск—Масква. Паколькі доля беларускага аўтатранспарту, які ідзе праз мяжу, складае менш чым 30 працэнтаў, транспартнікам здаецца слушным паставіць пытаньне аб аказаньні рэспубліцы міжнароднай дапамогі ў фінансаваньні згаданых праектаў. Мяркуецца, што пытаньне гэтае будзе ўзнята беларускім бокам на будучай Агульнаеўрапейскай транспартнай канферэнцыі па развіцьці панеўрапейскіх інтэрмадэльных транспартных калідораў, якая пройдзе летам 1997 году ў Хельсінкі.

## БУДЗЕ І НА НАШАЙ ВУЛІЦЫ СЬВЯТА

Да канца гэтага месяца ў Горадні запланавана правесьці чарговую сустрэчу экспертаў Беларусі, Расеі, Летувы і Польшчы на прадмет стварэньня еўрарэгіёну «Нёман». Арганізацыяй яе займаецца сьпецыяльна створаная міжведамасная рабочая група. На адным з апошніх пасяджэньняў якой вырашана сфармаваць у яе рамках дзьве рабочыя падгрупы. Адна з іх зоймецца распрацоўкай установчых дакумантаў для стварэньня беларускага бюро еўрарэгіёну, а таксама вызначэньнем крыніцаў фінансаваньня ягонай дзейнасьці. Другая падгрупа будзе працаваць непасрэдна з замежнымі экспертамі, арганізоўваючы іх азнаямленчыя паездкі па ўжо дзейных еўрарэгіёнах Польшчы, Германіі і Чэхіі, а таксама зоймецца аказаньнем практычнай дапамогі ўладам Гарадзенскай вобласьці.

## ЁСЬЦЬ ШТО ДАСТАЦЬ «ИЗ ШИРОКИХ ШТАНИН»

**Міжнародны дзень абароны правоў чалавека беларускія ўлады вырашылі адзначыць урачыстым уручэньнем пашпартоў новага ўзору.** Акцыя праходзіла адначасова па ўсёй краіне і дала пачатак масавай пашпартызацыі насельніцтва Беларусі. У Горадні ў адсутнасьці старшыні аблвыканкаму Аляксандра Дубко, які дагульвае свой адпачынак, пашпарты ўручаў яго першы намесьнік, сп. Літвін.



Першымі ў вобласьці новыя пасьведчаньні атрымалі дзесяць чалавек - школьнікі Яўген Кісель і Максім Арцукевіч, завуч інтэрнату для дзяцей з кепскім зрокам Ірына Куроўская, былы «афганец», удзельнік ліквідацыі аварыі на ЧАЭС Аляксандр Роцык, вайсковец у адстаўцы Рыгор Хамуцільнік, жывёлагадовец калгасу «Кастрычнік» Гарадзенскага раёну Алена Бараноўская, маладая сям'я Віктара і Натальлі Бусько, а таксама Герой Савецкага Саюзу Іван Лебедзеў, славуты цяжкаатлет Аляксандр Курловіч **(на здымку).**

На працягу найбліжэйшых пяці гадоў атрымаць новыя пашпарты ў вобласьці павінна больш за 750 тысячаў чалавек. З улікам таго, што гарадзенскае бюро пашпартызацыі ў стане штодзённа афармляць 800-1000 дакумантаў, начальнік управы ўнутраных справаў аблвыканкаму Анатоль Белашэўскі паведаміў, што цалкам рэальна «ўкласьціся» ў чатыры гады. За новы пашпарт прыйдзецца заплаціць дзяржаве 30% мінімальнай заробнай платы.

З 1 студзеня 1997 году, па словах сп. Літвіна, новы беларускі пашпарт стане «выязным» і будзе адначасова выкарыстоўвацца і як замежны. Праўда, тым, хто зьбіраецца ехаць па ім за мяжу, прыйдзецца выкласьці яшчэ пяць «мінімалак» (на сёньня - 500 тысячаў), каб у дакуманце зрабілі адпаведны запіс-дазвол на выезд. За атрыманьнем новых пашпартоў неабходна зьвяртацца ў пашпартныя сталы па месцы жыхарства.

**Вітаўт Руднік**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## КАЛІ МЫ НЕ ПРЫВЯДЗЁМ БЕЛАРУСЬ ПАД ШТАНДАРЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ, ТО ЛУКАШЭНКА ПРЫВЯДЗЕ НАС У РАСЕЮ

**7 сьнежня ў Менску прайшоў чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Сойм разгледзеў сітуацыю ў краіне пасьля рэферэндуму і некаторыя асьпекты дзейнасьці Фронту ў новых умовах.**

Сойм кваліфікаваў рэферэндум 24 лістапада як дзяржаўны пераварот, зьдзейсьнены рэжымам Лукашэнкі з дапамогай імперскіх сілаў Расеі. Сойм канстатаваў расьсейваньне ілюзіяў наконт дэмакратычнай Расеі.

Разам з тым, некаторыя сябры Сойму спрабавалі надаць саюз з інтэрліберальнымі дзеячамі Беларусі як аснову далейшай дзейнасьці БНФ.

Пазіцыю радыкальнага крыла яскрава выказала спадарыня Людміла Шлома: «Чаго мы на сёньнешні дзень баімся найболей? Найболей мы баімся страты дзяржавы. Уся палітычная гульня перайшла ўжо на расейскае поле. Ад Беларусі больш нічога не залежыць. Зараз усё залежыць ад таго, калі Расея захоча нас узяць. Што можа стрымаць Беларусь? 1. Крытычны стан расейскай эканомікі. 2. Боязь Расеі беларускага нацыянальнага супраціву»

Расея не спыніцца перад дэмакратамі, бо элементарнай зьнешняй дэмакратыі ў Расеі болей. І яна дасьць нам тую дэмакратыю, якую хочуць Багданкевіч, Шушкевіч і іншыя. Далучэньне можа сьпісаць і крызіс расейскай эканомікі, сьпісаць на Беларусь.

Ад нас залежыць паказаць нацыянальны супраціў. Менавіта гэта павінна стаць генеральнай стратэгіяй Фронту. Асноўная лінія - на вулічную дэмакратыю. Усе кангрэсы - гэта толькі пабочныя сродкі. Нельга забываць, што там сядзяць палітычныя банкруты, якія нічога не зрабілі, меўшы рэальную ўладу. Яны хутка рассыплюцца, як рассыпаўся Канстытуцыйны суд. Пакуль яшчэ існуе Прэзідыум Вярхоўнага Савету, трэба змусіць яго падпісаць зварот да краінаў, што гарантавалі нашую незалежнасьць у Будапешце, з мэтай, каб яны дабіліся такой жа гаранты і для нас з боку Расеі. Побач з тым, Прэзідыум павінен асудзіць здраду з боку Расеі. Мы не павінны баяцца выступіць супраць расейскага шавінізму і расейскага імперыялізму.

У сувязі з гэтым важна згадаць ліст Зянона Пазьняка да папярэдняга Сойму. Старшыня Фронту як у ваду глядзеў, ставячы на першы план нацыянальную ідэю. Прайшоў месяц і стала відавочна, што Фронт ізноў павінен падымаць штандар нацыянальнай ідэі і супрацоўніцтва з інтэрліберламі магчыма толькі на грунце гэтай ідэі. Фронт ня можа арыентаваць сваю дзейнасьць на стварэньне палітычнага іміджу для палітыкаў кшталту Ганчара ды Булахава. Фронт існуе не для таго, каб яго лідары насілі мікрафон перад Шарэцкім, бо пасьля гэтага справа дойдзе да нашэньня начнога гаршка. Фронт існуе для змаганьня за дзяржаву, незалежную Беларускую Дзяржаву.

Сойм прыняў зьмеркаваньне адносна справаздачна - перадвыбарчай кампаніі. У суполках яна павінна закончыцца да 31.01.97г., у раённых і гарадзкіх арганізацыях - да 20.02.97. Абласныя і Менская гарадзкая канферэнцыя пройдуць да 10.03.97. Вясной 1997 году пройдзе чарговы зьезд БНФ «Адраджэньне».

Сойм Беларускага Народнага Фронту прыняў заяву, у якой асудзіў шэраг беларускіх палітыкаў і дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-скліканьня ў «ілюзіях» адносна расейскіх сілаў, зацікаўленых нібыта ў разьвіцьці дэмакратыі на Беларусі. Як адзначаецца ў заяве, гэтыя ж палітыкі «лічылі сваім абавязкам «клеіць» на Народны Фронт ярлыкі «нацыянал-радыкалізму» і «экстрэмізму». Цяпер жа, калі апошнія палітычныя падзеі рассеялі ўсе ілюзіі, на думку кіраўніцтва БНФ, «стала агульнапрызнанай» галоўная роля Народнага Фронту ў барацьбе за ўстанаўленьне ў Беларусі дэмакратыі і канстытуцыйнага ладу. «Пачынаецца новы этап у палітычнай гісторыі Беларусі, — адзначаецца ў заяве, — калі ўсе сілы, што абараняюць дэмакратыю, пачынаюць разумець, што яна магчымая толькі ў незалежнай краіне». Аўтары заявы паведамляюць аб сваёй гатоўнасьці цесна супрацоўнічаць з рознымі арганізацыямі і грамадзянамі, якія падзяляюць прынцыпы БНФ.

**Станіслаў Суднік**

## РЭФЕРЭНДУМ - ЯШЧЭ АДЗІН КРОК... ДА БЕЛАРУСІ

**Нават не дачакаўшыся афіцыйнага зацьверджаньня вынікаў рэферэндуму, Аляксандр Лукашэнка абвясьціў аб сваёй чарговай сакрушальнай перамозе над ворагамі, а дакладней кажучы - над беларускім народам. Усьлед за ім прэзідэнцкія і расейскія СМІ загаварылі пра посьпех кіраўніка Беларусі ў палітычнай барацьбе. Усе асноўныя тэлеканалы сьвету паказвалі, як дэпутаты Вярхоўнага Савету пакорліва выносілі свае асабістыя рэчы з будынка ВС. Пасьля гэтага палітычныя аглядальнікі пачалі казаць аб паразе беларускай апазіцыі.**

Але ці зьяўляецца пройгрыш апазіцыйных дэпутатаў перамогай Прэзідэнта? Ці паставіў рэферэндум кропку ў гісторыі нашага Адраджэньня? Сьцьвярджаць такое могуць толькі тыя, хто не ўлічвае сьпецыфічнае становішча, у якім знаходзіцца нашае грамадзтва.

Рэферэндум нанёс зьнішчальны ўдар па той палітычнай сіле, якая стала апазіцыйнай прэзідэнту, калі аўтарытарная ўлада Аляксандра Лукашэнкі пачала пагражаць асабістым інтарэсам яе прадстаўнікоў. Былыя паплечнікі прэзідэнта, русіфікаваныя бізнесмены, камуністы і аграрыі - усіх іх Лукашэнка сам зрабіў сваімі ворагамі, калі пачаў прыносіць іх у ахвяру сваёй папулісцкай палітыцы. Па паходжаньню такую апазіцыю можна назваць наменклатурнай. Многія з гэтых апазіцыянераў паўтара гады таму, калі прэзідэнцкія апрычнікі ў Вярхоўным Савеце зьбівалі лепшых прадстаўнікоў нацыянальнай апазіцыі, паціралі рукі і казалі: «Мала далі.»

2 красавіка гэтага году кіраўніцтва Вярхоўнага Савету было ня ў Менску, сярод людзей, якія пратэставалі супраць здрады Радзіме, а ў Маскве, побач з Лукашэнкам. Толькі тры дэпутаты прагаласавалі супраць стварэньня ССР. Яшчэ два месяцы таму Савет Аграрнай Партыі Гарадзенскай вобласьці, з якой паходзяць і старшыня партыі Гіруць, і старшыня ВС Шарэцкі, у сваёй заяве адзначыў станоўчыя моманты ў палітыцы Прэзідэнта. А менавіта, зьнішчэньня дзяржаўнасьці, нацыянальнай сімволікі, прыніжэньне статусу беларускай мовы і недапушчэньне ў парламант нацыянальнай апазіцыі.

Асноўная надзея ў змаганьні з Прэзідэнтам у наменклатурнай апазіцыі была на падтрымку Масквы. Пачарговыя паездкі ў Расею Аляксандра Лукашэнкі і парламантарыяў нагадвалі спаборніцтва «Хто прадасьць Радзіму на больш выгадных Крамлю ўмовах». Масква выбрала Лукашэнку. Гэта было шокам для наменклатурнай апазіцыі. Яна нават не змагла выкарыстаць момант, калі зьявілася магчымасьць адхіліць дэ-юрэ Прэзідэнта ад улады. Прэзыдыум ВС пакінуў свае рабочыя месцы па першаму загаду міліцыянта. Нават фіктыўная ўлада была згублена.

Камуністычная і Аграрная партыі расколаты. Іхняе спадзяваньне на расейскіх аднадумцаў таксама не спраўдзілася. Вынікі змаганьня з Прэзідэнтам для наменклатурнай апазіцыі сапраўды катастрафічныя.

Але і для Прэзідэнта перамога аказалася піравай. Самае галоўнае, што «ліпавы» рэферэндум ня толькі ня вырашыў ніводнай праблемы, якія стаяць перад грамадзтвам, а нават паглыбіў іх. Па-ранейшаму ў Аляксандра Лукашэнкі няма саюзьнікаў, а ёсьць толькі падначаленыя. Ён разумее, што яны побач да тых часоў, пакуль улада ў ягоных руках. Падтрымка «народных мас» - справа ненадзейная. Аляксандр Рыгоравіч, напэўна, ня раз параўноўваў кадры з дзьвюх кінахронік. У адной італьянскія народныя масы з "захапленьнем" слухаюць прамову любімага Дучэ. А ў другой тыя ж «народныя масы» з няменшым захапленьнем зьдзекваюцца з падвешанага за ногі трупа ненавіснага Мусаліні.

Таму, калі пачаліся масавыя выступленьні нацыянальнай апазіцыі, Лукашэнка спалохаўся. Ён вырашыў даказаць сабе і ўсяму сьвету, што народ за яго, а адначасова ўзаконіць усе свае дзеяньні. Пры гэтым ён паставіў пад пагрозу пазбаўленьне ўлады ВС. Раней ні Канстытуцыйны Суд, ні ВС асабліва не перашкаджалі прэзідэнту парушаць Канстытуцыю. Заканадаўцы засупраціўляліся толькі тады, калі пад імі захісталіся іх утульныя крэслы.

Лукашэнка не разьлічыў свае сілы. Ён не чакаў такой адмоўнай рэакцыі на рэферэндум у грамадзтве. Аднак спыніцца Прэзідэнт ужо ня мог. Параза азначала для яго палітычную сьмерць. Таму Лукашэнка вымушаны быў выйграць, не зьвяртаючы ўвагі ні на Закон, ні на сапраўдную думку народу.

І чаго ён дабіўся? Палітычнай ізаляцыі краіны. Замест вобразу любімага народам прэзідэнта сьвет бачыць дыктатара. Шчырая падтрымка прафашысцкай расейскай апазіцыі можа зрабіць «мядзьвежую паслугу». Афіцыйная Масква, хоць і падтрымала Лукашэнку, але асабліва прыязна пакуль не выказваецца. Сярод падначаленых, якія засталіся, на пасаду старшыні парламанту не знайшлося нікога лепшага, чым камуніст-артадокс Малафееў. Застаецца толькі зноў прызначыць прэм'ер-міністрам Кебіча...

Сіла, якая зьяўляецца асноўным праціўнікам Аляксандра Лукашэнкі - гэта нацыянальная апазіцыя. Менавіта ганебнае прыніжэньне нацыянальнай годнасьці беларусаў вывела дзесяткі тысячаў людзей 24 сакавіка гэтага году на вуліцы сталіцы. Славутая «Менская вясна», якая прымусіла ўвесь сьвет зьвярнуць увагу на Беларусь, пачалася з дня адзначэньня ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Яшчэ не было канстытуцыйнага крызісу. Прэзідэнт адкрыта не казаў аб зьмяненьні палітычнага ладу ў рэспубліцы. Нацыянальная апазіцыя абараняла незалежнасьць краіны, супрацьстаяла наступу Аляксандра Лукашэнкі на дэмакратыю. У восеньскім канфлікце паміж прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам нацыянальна сьвядомая частка Беларусі падтрымлівала дэпутатаў, якія спрабавалі абараніць закон. Але на ўсіх акцыях пратэсту супраць дыктатуры Прэзідэнта асноўнымі лозунгамі заставаліся : «Жыве Беларусь!» і «Незалежнасьць» .

Нацыянальная апазіцыя не панесла паразу. Наадварот, яна акрыяла пасьля мінулагодняга рэферэндуму, значна павялічылася колькасна і палепшылася якасна. Тысячы людзей паказалі, што не баяцца міліцэйскіх дубінак і арышту, гатовы абараняць Радзіму да канца. Бел-чырвона-белы сьцяг і беларуская мова сталі мець ня толькі геральдычнае і лінгвістычнае значэньне, але зрабіліся для ўсяго сьвету сімваламі змаганьня за дэмакратыю і лепшае жыцьцё на Беларусі.

Для адраджэнскага руху дзень 24 лістапада ня быў лёсавызначальнай датай. Ён стаў толькі яшчэ адным крокам на шляху да пабудовы ў цэнтры Еўропы незалежнай дэмакратычнай дзяржавы - Беларусі.

**Дз.Кісель**

## РУКІ ПРЭЧ!

23-24 сьнежня, з 11 да 12 гадзінаў, прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту плануюць правесьці пікетаваньне Пасольства Расейскай Федэрацыі ў Менску. Адпаведная заяўка ўжо пададзена ў Менгарвыканкам. Арганізатарам акцыі выступае БНФ. Як паведамілі ў штаб-кватэры Фронту, пікет накіраваны супраць «адкрытага ўмяшаньня расейскага кіраўніцтва ў палітычны крызіс на Беларусі», а таксама супраць «падтрымкі ўладамі Расеі рэжыму прэзідэнта Лукашэнкі».

## ВЫПІХВАЮЦЬ НА ПЛОШЧУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ?

Як заявіў на прэс-канферэнцыі трэцяга сьнежня ў штаб-кватэры БНФ выканаўца абавязкаў старшыні Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі, магчыма, сустрэча з прэсай, якая праходзіла сёньня ў гэтай залі, — адна з апошніх. 31 сьнежня заканчваецца тэрмін арэнды Ўправай БНФ памяшканьняў па вул.Варвашэні, 19, прадоўжыць які гарадзкія ўлады не згаджаюцца. «Але нават калі нас пазбавяць памяшканьня, — запэўніў журналістаў Баршчэўскі, — працаваць мы будзем ня менш эфектыўна, чым раней».

## СТАЯЦЬ ДА КАНЦА!

**10 сьнежня а 15-й гадзіне ў сталічным Доме літаратара сабралася каля 40 дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, якія адмовіліся працаваць у Нацыянальным сходзе.** Сярод іх шэсьць з дзевяці членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савету — Сямён Шарэцкі, Васіль Новікаў, Генадзь Карпенка, Сяргей Калякін, Мячыслаў Гіруць і Сямён Домаш. Цікава, што з шаснаццаці старшыняў пастаянных камісіяў у зале прысутнічалі дзевяць. Адкрываючы сход, Сямён Шарэцкі адзначыў, што прысутныя тут і надалей застаюцца дэпутатамі і будуць выконваць тыя абяцаньні, якія давалі сваім выбаршчыкам. «Мы будзем выконваць Канстытуцыю 1994 году, якую дагэтуль лічым легітымнай», — заявіў С.Шарэцкі. Выступіўшыя ў дэбатах дэпутаты Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар, Станіслаў Багданкевіч, Уладзімір Нісьцюк, Анатоль Лябедзька, Станіслаў Шушкевіч, Сяргей Калякін, Васіль Новікаў і іншыя гаварылі пра тое, што час разгубленасьці і асуджанасьці заканчваецца, і Вярхоўны Савет павінен працягваць сваю працу. Для пашырэньня сваіх шэрагаў было прапанавана прыцягнуць да працы Вярхоўнага Савету дэпутатаў, абраных 24 лістапада, а таксама тых прэтэндэнтаў на месца ў парламанце, якія занялі 24 лістапада ў сваіх акругах першае і другое месцы па колькасьці галасоў. Аднак, каб не парушаць легітымнасьць сходу, было вырашана апошнім прадаставіць толькі права дарадчага голасу. Пасьля вельмі бурнай дыскусіі было прынята рашэньне, якое складалася з трох пунктаў: старшыні камісіяў і падкамісіяў прадоўжаць выкананьне сваіх абавязкаў і ўкамплектуюць свае падраздзяленьні; пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савету будуць створаны два невялікія аддзелы — арганізацыйны і інфармацыйны; вырашана таксама сабрацца яшчэ раз у гэтым годзе і зрабіць справаздачу аб зробленым. У заключэньне ўдзельнікі сходу прынялі заяву да грамадзянаў Беларусі і міжнароднай грамадзкасьці. У ёй гаворыцца, што прысутныя дэпутаты пацьвярджаюць вернасьць Канстытуцыі 1994 году, не прызнаюць легітымнага выніку рэферэндуму, заяўляюць, што адзіным легітымным ворганам прадстаўнічай улады застаецца Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Дэпутаты ў звароце заявілі аб гатоўнасьці падтрымліваць законнасьць у краіне.

**Уладзімір ГЛОД**

## ЦІ ЗРОБІЦЬ ЛУКАШЭНКА АПОШНІ КРОК, ІДУЧЫ ПА СЬЦЕЖЦЫ СЬМЕРЦІ?

**Калі прааналізаваць разгортваньне будучых палітычных падзеяў па сцэнары маскоўскіх гаспадароў Лукашэнкі (дзе галоўнае - захоп Беларусі Расеяй), становіцца дастаткова прадказальнай будучая скандальная падзея - сьмерць (магчыма, ня толькі палітычная) Лукашэнкі пасьля зьдзяйсьненьня анэксіі.**

Зараз Лукашэнку ўнушаюць, нават адкрытым тэкстам (хаця б той жа Бабурын), што, калі ён дапаможа акупаваць Беларусь, ён будзе першым прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта Расеі на найбліжэйшых выбарах. Я ж лічу сьмерць Лукашэнкі пасьля здачы Беларусі настолькі відавочнай, наколькі відавочна, што за сёньняшнім днём наступіць заўтрашні.

Уявім сабе, што Лукашэнка здаў Беларусь і пачаў змагацца за пасаду прэзідэнта Расеі. Але ж тады ён пераходзіць дарогу іншым кандыдатам на імперскі прэстол, а ніводнаму з іх моцны канкурэнт не патрэбны. Ім патрэбна Беларусь. Лукашэнка для іх сродак, кошт якога становіцца нулявым пасьля дасягненьня мэты. І калі Лукашэнка пяройдзе дарогу Зюганаву ці Жырыноўскаму - гэта яшчэ паўбяды. Калі ж ён стане на шляху Чарнамырдзіна ці Лужкова - вось гэта ўжо сапраўды бяда.

Калі ж Аляксандру Рыгоравічу невераgodна пашанцуе і ён наблізіцца да пасады прэзідэнта Расеі - рэзка забаляць галовы ў вельмі многіх на Захадзе. Успомніце. Некалькі тыдняў таму Лукашэнка ня вытрымаў, каб не пашантажаваць Захад. Ці то 14-цю, ці то 18-цю ядзернымі ракетамі, якія, дарэчы, яму не падпарадкоўваліся. А тут у яго поўным распараджэньні будуць сотні міжкантынентальных балістычных ядзерных ракетаў. Вось дзе будзе праблема для ЦРУ і іншых падобных арганізацыяў. А гэтыя хлопцы заўсёды абіраюць самыя надзейныя рашэньні.

Апошні варыянт, прамежкавы. Лукашэнка ўдзельнічаў у выбарах прэзідэнта Расеі, выжыў, але прэзідэнтам ня стаў. Ці захоча наш Аляксандр Рыгоравіч быць звыклым губернатарам, падпарадкаваным нейкаму іншаму? Канешне ж, не. Ён захоча зноў вярнуць сабе паўнаўладдзе на Беларусі. А гэта значыць, змаганьне за яе незалежнасьць. Ці захоча імператар расейскі зноў упусьціць Беларусь, калі ёсьць «такое простае рашэньне»? Канешне ж, не!

Якая выснова з усяго апісанага? А такая - адзіны спосаб для Лукашэнкі захаваць сваё жыцьцё - незалежная Беларусь! Вось у чым ягоны адзіны паратунак ад сьмяротнай пагрозы.

**Алесь Астроўскі**

## ТОЛЬКІ ВОСЕМ

**З дваццаці трох дэпутатаў Вярхоўнага Савету ад Гарадзеншчыны толькі восем увайшлі ў створаную згодна прэзідэнцкай Канстытуцыі Палату прадстаўнікоў. Сваю адданасьць прэзідэнту пацьвердзілі сп. Енка (Лідзкая акруга), Ражко (Гарадзенская сельская), Блюднік (Лідзкая сельская), Кузьма (Свіслацкая), Дуніч (Іўеўская), Рымарчык (Зэльвенская), Яновіч (Карэліцкая) і Бекіш (Шчучынская).**

У сваю чаргу, згодна з указам прэзідэнта аб спыненьні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету, сваіх прадстаўнікоў у парламанце ўмомант пазбавіліся выбаршчыкі Астрынскай(сп. Домаш), Астравецкай(сп. Сьвірыд), Мастоўскай(сп. Апалонік), Ашмянскай(сп. Лебядзько), Дзятлаўскай(сп. Грыб), Наваградзкай сельскай(сп. Шарэцкі), Ваўкавыскай сельскай (сп. Пыжык), Ваўкавыскай гарадзкой(сп. Скок), Бераставіцкай( сп. Зданчук), Воранаўскай(сп. Леўшык), Скідальскай( Аляксандр Дубко- сын старшыні аблвыканкаму-В.Д.), Наваградзкай(сп. Манукова), Слонімскай Савецкай(сп. Дмухоўскі), Слонімскай Чырвонаармейскай(сп. Астапковіч), Смаргонскай сельскай( сп. Гіруць) выбарчых акругаў.

Дзякуючы гэтаму ж указу, пазбавіліся законнага права мець сваіх прадстаўнікоў у парламанце выбаршчыкі шасьці гарадзенскіх гарадзкіх акругаў, Смаргонскай акругі N 142 і Лідзкай Камсамольскай акругі, у якіх дэпутаты так і не былі да гэтага часу абраныя.

## БУДЗЕ ГОРАДНЯ СТАЛІЦАЙ?

**Сфармаваны «новы» беларускі парламант, дакладней , яго ніжняя палата. Як паведамілі яе кіраўнікі, ніякіх выбараў больш ня будзе, маўляў, трэба працаваць. Пакінем убаку сумнеўную легітымнасьць новай Кастытуцыі, новага парламанту і тыя прычыны, якія «перашкаджалі працаваць» раней.**

Запытаемся пра іншае. Што гэта за парламант, у якім няма і не прадбачыцца прадстаўнікоў 250-тысячнага гораду, якім зьяўляецца Горадня? Што гэта за дзяржаўнае будаўніцтва такое? Ці можам мы, гарадзенцы, зрабіць выснову, што нас кінулі ў самастойнае плаваньне , і цяпер мы можам займацца афіцыйна санкцыянаваным сепаратызмам? Даеш Прынёманскую Рэспубліку?

**Сяргей Самасей.**

# «ЩАДЯЩИЕ» ПАДАРУНКІ АД ПАДАТКОВАЙ ІНСЬПЕКЦЫІ



**Адной з самых гарачых тэмаў жыцьця Горадні ўжо другі тыдзень застаецца павышэньне для прадпрымальнікаў падаткаў на прыбытак і прапанаваныя мясцовымі ўладамі меры па зборы гэтага падатку. Нагадаем, што з 1-га сьнежня прадпрымальнікі, якія плацілі дзяржаве па 200-300 тысячаў рублёў у квартал, павінны заплаціць 600 тысячаў. Прычым, за месяц і наперад, яшчэ да таго, як той самы прыбытак зьявіцца (ды і дзе гарантыя, што ён зьявіцца? - В.Р.). 5 сьнежня гэтым пытаньням была прысьвечана большая частка прэс-канферэнцыі начальніка Дзяржаўнай падатковай інсьпекцыі па Гарадзенскай вобласьці Мікалая Фірулёва (на здымку).**

Кіраўнік абласной падатковай службы паведаміў, што павышэньне падатку і збор яго яшчэ да пачатку прадпрымальніцкай дзейнасьці выкліканы кепскім выкананьнем бюджэту ў краіне. Толькі на Гарадзеншчыне ў скарбонку дзяржавы ў выглядзе падаткаў недапаступіла звыш 200 мільярдаў рублёў. Адказнасьць за гэта нясуць і прадпрымальнікі, большасьць з якіх, па словах сп. Фірулёва, хавае ад падаткаў свой прыбытак. Каб пазьбегнуць гэтага надалей, і было вырашана зьбіраць падатак на прыбытак наперад.

«Новыя стаўкі фіксаваных падаткаў, на маю думку, «щадящие» для тых, хто адказна ставіцца да прадпрымальніцтва. Для тых жа, хто прывык красьці і хавацца ад падаткаабкладаньня, гэта будзе добрым бар'ерам,» - заявіў журналістам сп. Фірулёў.

Што датычыць пратэстаў гарадзенскіх прадпрымальнікаў і, у прыватнасьці, стыхійнага мітынгу на гарадзенскім рэчавым рынку, сп. Мікалай Фірулёў паведаміў, што ведае тых асобных прадпрымальнікаў, якія зьяўляюцца ініцыятарамі такіх акцыяў і выказаў меркаваньне, што мітынгам ўсё гэта ня скончыцца. Будуць хадзіць па інстанцыях...Таксісты ў свой час таксама хадзілі, але ўрэшце рэшт згадзіліся плаціць уведзеныя намі падаткі... Так што дарэмна яны так робяць...У нас і так самыя нізкія ў краіне стаўкі...»

Гарадзенскія прадпрымальнікі і на самой справе на мітынгу не спыніліся. Ужо сабраныя подпісы пад калектыўным зваротам да мясцовых уладаў з просьбай перагледзець рашэньне аб павелічэньні падаткаў.

Тым часам, 6 сьнежня адбылося першае пасяджэньне сумеснай камісіі, створанай па прапанове дэпутата гарадзенскага гарадзкога Савету Віктара Шыркіна для разгляду сітуацыі вакол падаткаў. У склад камісіі ўваходзяць прадстаўнікі гарвыканкаму, гарсавету, падатковай інсьпекцыі, прадпрымальнікі. Сябры камісіі спадзяюцца знайсьці нейкі кампрамісны варыянт, які задаволіў бы ўсе бакі канфлікту. Магчыма, такі варыянт будзе прапанаваны ўжо на найбліжэйшым пасяджэньні камісіі, якое адбудзецца 16 сьнежня.

**Віктар Людвіковіч**

# «З НАМІ НІХТО НЕ РАІЎСЯ!»

**Насуперак запэўніваньням кіраўніцтва Дзяржаўнай падаткавай інсьпекцыі па Гарадзенскай вобласьці, што ўвядзеньне новых ставак фіксаваных падаткаў было адобрана Саюзам прадпрымальнікаў, «Пагоня» атрымала супрацьлеглую інфармацыю.**

У інтэрв'ю карэспандэнту «Пагоні» кіраўнік гарадзенскага гарадзкога Саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Гардон паведаміў наступнае:

З нашым Саюзам прадпрымальнікаў ніхто ўвогуле не раіўся. Па маёй інфармацыі, кансультацыі праводзіліся з кіраўніцтвам абласнога Саюзу, але ніякага адабрэньня з яго боку гэтага падатку ня было.

Дарэчы, у Адміністрацыі прэзідэнта ўжо падрыхтаваны праект указа па пытаньнях уплаты фіксаваных падаткаў на прыбытак і цьвёрдых сумаў падаходнага прыбытку. Стаўкі там у 4-5 разоў вышэйшыя за тыя, што зацьвердзіў абласны Савет дэпутатаў.

***-Да якіх наступстваў гэта можа прывесьці? Любая нармальная дзяржава лічыць сваім абавязкам клапаціцца пра прадпрымальнікаў, бо гэта падаткі, новыя працоўныя месцы і г.д. Прадпрымальнік добра працуе там, дзе для гэтага створаны добрыя ўмовы. У нас іх няма. І ўжо сёньня назіраецца зыход беларускіх бізнесменаў на рынкі Расеі, Польшчы, Чэхіі. Разам з імі зыходзяць і грошы, якія б маглі працаваць тут.***

Сама па сабе ідэя ўвядзеньня фіксаваных падаткаў вельмі добрая, апрабаваная ў многіх краінах. Гэта спрошчвае працэс збору падатку, дазваляе чалавеку займацца справай, а не дарэмнай пісанінай, пралічыць, наколькі выгодна прадаваць той ці іншы тавар. Другая справа,што гарадзенскія ўлады не прааналізавалі , у якіх умовах і колькі часу працуе чалавек, што ён плаціць у бюджэт, гандлюе ён на рынку ці пастаўляе туды тавары гуртам. Гуртавікоў, напрыклад, гэтыя стаўкі зусім не закранулі, а найбольш ударылі па тых, для каго гандаль на рынку - адзінае даступнае месца працы. Дарэчы, з тых грошай (мільён трыста тысячаў) якія гандляры плацяць за месца на рынку ў мясцовы бюджэт, ідзе па-мойму, усяго каля 10 працэнтаў грошай.

***-Якія меры зьбіраецца прыняць Саюз прадпрымальнікаў, каб дамагчыся зьмяненьня памеру ставак, зьмякчэньня формаў іх збору?***



-Мы актыўна абмяркоўваем гэтыя пытаньні, рыхтуем вялікі ліст з нашымі прапановамі ў Кабінет міністраў. Але думаю, што сур'ёзна паўплываць на ўлады наўрад ці зможам. Сёньня такі момант, калі мала хто каго слухае...

**Гутарыў Вітаўт Руднік**

# "ПРАЦУЙ У КАЛГАСЕ ВЕРНЕ, А ЁН ТАБЕ..."

**Пенсіянеры калгасу «Гарадзенскі» на днях запрасілі карэспандэнтаў «Пагоні» ў госьці. Яны прапанавалі нам паглядзець, якім зернефуражом забясьпечыла на зіму кіраўніцтва калгасу сваіх ветэранаў. «Лічыцца нібыта зерне, а на самой справе ў асноўным лебяда з нейкім сьмецьцем, - казалі людзі. - Сьвіньні адварочваюць лычы і рохкаюць, куры адварочваюць дзюбы і кудахчуць, а вераб'і пасьмяхаюцца і клююць насеньне лебяды.».**

Прымаем запрашэньне, садзімся ў машыну і едзем. За некалькі кіламетраў ад Горадні нас сустракаюць вёскі з мілагучнымі, амаль казачнымі назвамі: Салаўі, Улькаўцы, Сольная Баля, Міцкавічы, Наумавічы, Пышкі. Жыхары гэтых весак забясьпечваюцца фуражом з калгаснага млыну ў Пушкарах.

Мы прыехалі якраз тады, калі людзі вярталіся з касьцёлу. Пытаемся ў вяскоўцаў, ці задаволены яны тым зернем для корму жывёлаў, што прадае ім калгас. «Якое зерне? Гэта сьмецьце,» - адказваюць сяляне. Адна з жанчынаў запрашае да сябе ў хату. Жыве яна адна. Трымаць сьвіньню або карову няма ўжо сілы. Але на пенсію ў 300 тысячаў не пражывеш. Асноўныя кармільцы для кабеты - куры. «Калгас прадае пенсіянерам па 100 кілаграмаў зернефуражу коштам 1500 рублёў за кілаграм. А што за зерне - глядзіце самі.» Жанчына прыносіць жменю «фуражу» (**на здымку**). У яе руках мы бачым мешаніну з саломы, аўсу, нейкага шэрага парашку, насеньня травы. Дзе-нідзе бачныя зярняткі ячменю і некалькі гарошынаў. «Курам ад аўсу ніякай карысьці,- кажа гаспадыня. - Але ж карміць іх нечым трэба. Вось і аддала палову пенсіі за гэты фураж. Зараз хаджу ў касьцёл. Прашу пана Бога, каб дапамог пражыць бяз ежы.».



У калгасьнікаў ёсьць выбар. Яны могуць купляць «фураж» або муку з яго па 1600 рублёў за кілаграм. Наведалі мы яшчэ адну гаспадыню, якая набыла муку. Мука больш нагадвае пілаваньне ад спарахнелага дрэва. Цікава, як смакуе сьвіньням такая ежа. «Калі больш няма чаго, дык яны і салому зьядуць,- гаворыць гаспадыня. - Але якое будзе сала з тых сьвіняў? Вы паглядзіце, як гэтая мука ў вадзе размешваецца.». Жанчына ўліла ў вядро з «мукой» вады. Спачатку «мука» доўга плавала на паверхні. Пасьля інтэнсіўнага размешваньня кіем шэрая маса пастуова зьбіваецца ў камякі. «І колькі яшчэ будзе працягвацца зьдзек над намі?» - пытаецца жанчына.

Гэтае пытаньне «Пагоня» перaадрасоўвае старшыні калгасу - спадару Мечыславу Санько.

**Дз. Кісель.**

P.S. Па просьбе калгасьнікаў, у артыкуле не названая вёска, у якой адбываліся размовы, і прозьвішчы іх удзельнікаў.

## МНОГАЕ Ў НЯМНОГІМ

**У аўторак у музеі Максіма Багдановіча адбылося адкрыцьцё новай часткі экспазіцыі. Яе склалі два маленькія пакойчыкі, дзе адлюстраваны лёсы літаратараў, што жылі і працавалі на Гарадзеншчыне. Большая частка плошчы адведзена Ларысе Геніюш, асобе, якой, па выказваньню Дануты Бічэль- Загнетавай,значны час жыла ўся Беларусь.**

Імпрэза працягвалася прэзентацыяй кніжкі Аляксея Пяткевіча «Літаратурная Гродзеншчына»..У адрас аўтара было выказана багата цёплых слоў, адзін з прысутных назваў выдадзеную кніжачку маленькай энцыклапедыяй. Сапраўды, нават у сьціплай форме можна сказаць пра многае.

**Ладзік Майніч**

## БЫЛІ І НАШЫЯ Ў НІДЭРЛАНДАХ

На працягу кастрычніка-лістапада ў Галерэі Алы Паўлавай(ALLA PAVLOVA GALLERY), што знаходзіцца ў галандзкім горадзе Дордрэхт, экспанавалася выстава працаў майстроў сучаснага беларускага выяўленчага мастацтва «Беларускі рэнэсанс». Галандзкім гледачам былі прапанаваныя творы пераважна менскіх мастакоў: Мікалая Селяшчука, Уладзіміра Савіча, Зоі Літвінавай, Сьвятланы Катковай, Уладзіміра Шэпелевіча, Аляксандра Вахрамеева. Апрача Менску вызначыліся толькі два культурніцкія асяродкі: Горадню ў Нідэрландах рэпрэзэнтавалі працы скульптара Уладзіміра Панцялеева, а Віцебск — жывапіс Алеся Мемуса.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ**

# «ГАЗПРАМ» ЗАДАРМА НЕ ДАЕ

Зараз на ўзроўні ўрадаў і адпаведных канцэрнаў вядуцца перамовы аб пастаўках у Беларусь расейскага газу. Напярэдадні ў беларускі ўрад паступіла тэлеграма, у якой расейскае АТ «Газпрам» паведамляе аб сваім намеры скараціць на 50 працэнтаў пастаўкі газу ў рэспубліку. Прычынай такога рашэньня, як адзначаецца ў тэлеграме, зьяўляецца запазычанасьць Беларусі за ўжо атрыманы газ. Як паведаміла кампетэнтная крыніца, агульны доўг Беларусі за расейскі газ на 5 сьнежня складае 6.760 227 мільёнаў беларускіх рублёў. За перыяд з 1 лютага 1996 году, калі паміж Расеяй і Беларусьсю быў заключаны так званы «нулявы варыянт», беларускі доўг склаў 2.738 221 мільён. Акрамя таго, Беларусь вінавата Расеі за электраэнергію 2,8 мільёна даляраў ЗША.

# ПРАЦЯГ «НУЛЯВОГА ВАРЫЯНТУ»

У Менску адбылося пасяджэньне Савету дырэктараў канцэрну «Белнафтапрадукт», у якім прынялі ўдзел кіраўнікі нафтавай галіны рэспублікі, дырэктары нафтабазаў і прадпрыемстваў па нафтапрадуктазабесьпячэньні. На пасяджэньні абмеркаваны праблемы паставак расейскай нафты на Наваполацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы, забесьпячэньне нафтапрадуктамі галінаў народнай гаспадаркі і насельніцтва, а таксама гатоўнасьці да працы ў зімовы перыяд прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у «Белнафтапрадукт». Удзельнікі пасяджэньня накіравалі прэзідэнту Беларусі зварот у сувязі з надзвычайнай сітуацыяй, якая склалася з забесьпячэньнем народнай гаспадаркі краіны нафтапрадуктамі. Як адзначана ў дакуманце, для нармальнага забесьпячэньня народнай гаспадаркі нафтапрадуктамі неабходна пастаўляць на перапрацоўку ў зімовы перыяд ня менш чым 1 мільён тонаў нафты ў месяц. Аднак апошнім часам рэзка скараціліся яе пастаўкі з Расейскай Федэрацыі. Да прыкладу, у кастрычніку было пастаўлена 540 тысячаў тонаў, у лістападзе — 435 тысячаў і за чатыры дні сьнежня — усяго толькі 41 тысяча тонаў. Мазырскі і Наваполацкі НПЗ, гаворыцца ў звароце, працуюць на гранічна мінімальных рэжымах загрузкі. «Далейшае зьніжэньне аб'ёмаў перапрацоўкі нафты можа вывесьці са строю тэхналагічнае абсталяваньне, — лічаць аўтары звароту. —Адсутнасць гаруча-змазачных матэрыялаў, асабліва топачнага мазуту, пры мінусавых тэмпературах прывядзе да спыненьня многіх энергетычных і цеплавых аб'ектаў, што паралізуе народную гаспадарку, выкліча дэстабілізацыю абстаноўкі». Адной з галоўных прычынаў скарачэньня паставак у Беларусь нафты, на думку сьпецыялістаў, зьяўляецца адсутнасьць валютных сродкаў на яе аплату. На 4 сьнежня 1996 году запазычанасьць за ўжо ўжытыя нафту і нафтапрадукты склала больш чым 50 мільёнаў даляраў ЗША, у тым ліку канцэрну «Белнафтапрадукт» — больш чым 26 мільёнаў даляраў, «таму што заяўкі на пакупку валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы не выконваюцца... Гарантыя старшыні праўленьня Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь Віньнікавай Т.Д.... аб канвертацыі валюты на аплату пастаўляемай у рэспубліку нафты і нафтапрадуктаў у аб'ёме да 50 мільёнаў даляраў ЗША штомесяц не выконваецца. Так, у лістападзе канцэрну праканверсавана ўсяго толькі 8 мільёнаў даляраў ЗША. Яшчэ больш складанае становішча ў фірмаў-пастаўшчыкоў». Улічваючы гэтую сітуацыю, члены канцэрну «Белнафтапрадукт» просяць прэзідэнта даручыць ураду, Савету бясьпекі і Нацбанку «у тэрміновым парадку разгледзець становішча з аплатай пастаўляемай у рэспубліку нафты».

**Яўген ГРУБІЧ**

# ЛІНІЯ КЕРЗОНА,

## АЛЬБО КАРОТКІ ВОПЫТ ГЕАПАЛІТЫЧНАГА АНАЛІЗУ БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКАЙ ІНТЭГРАЦЫІ

**Беларусьсю сёньня кіруюць былыя лейтэнанты-палкоўнікі, хай пераважна ідэалагічных войскаў, але камандны вопыт яны маюць. Аўтар таксама праходзіў страявую падрыхтоўку і мае вайсковы чын старшага сяржанта. Меркаваньне шэрагоўца ніхто слухаць не захоча, а ст.сяржант - асоба значная, не скажыце.**

**Дык вось, я думаю, зараз вырашаецца пытаньне, ці будзе трэцяя сусьветная вайна.**

Пры камуністах пасьля Карыбскага крызісу ўсе ад мала да вяліка змагаліся за мір. Лічылася, што, хоць імперыялісты і агрэсіўныя шэльмы, партыя вайны не дапусьціць. Праўда, дзеля гэтага некаторыя салдаты і афіцэры мусілі ахоўваць мір у Венгрыі, В'етнаме, Анголе, Афганістане ды іншых гарачых кропках. Але ў цэлым партыя сваё слова стрымала. І перад сконам прымусіла ўсіх сваіх былых ворагаў зьмяншаць вайсковыя выдаткі і праводзіць раззбраеньне з ліквідацыяй базаў.

Пасьля развалу СССР новая Расея засталася бяз ворагаў, але з бомбамі і Генеральным Штабам. Генштаб ня ў стане жыць бяз ворага і бяз межаў сваёй адказнасьці. Раней ці пазьней Расея і НАТА непазьбежна сутыкнуліся б. НАТА зразумець можна: гэты блок бароніць свой дабрабыт і свае каштоўнасьці. Расею таксама можна зразумець: яна ня хоча страціць свае велізарныя тэрыторыі. Тое, што канфлікт паміж Расеяй і НАТА выбухнуў з нагоды ўступленьня ў вайсковы блок новых сяброў з Усходняй Еўропы - справа цалкам натуральная і лёгка прадказальная.

Як толькі стала магчыма, чэхі, палякі, венгры і прыбалты выбралі, як раней казалі, свабоду. І іх цудоўна можна зразумець: ну каму даспадобы жыць так, як завялі жыцьцё расейцы?

Гісторыя паўтарылася ізноў. Некалі, пасьля рэвалюцыі 1917 году, мяжу паміж камуністычнай экспансіяй і Захадам пралажылі па так званай «лініі Керзона». Гэтая лінія доўга не магла ўсталявацца: то з Польшчай ваявала РСФСР, то разам з фашыстоўскай Германіяй СССР дзяліў Польшчу. Пасьля вайны «лінія Керзона» ўвайшла ў зону ўплыву Масквы і Варшаўскай дамовы, а пасьля 1991 г. «лінія» стала ўнутранай справай дзьвюх незалежных дзяржаваў— Польшчы і Беларусі.

І вось цяпер «лінія Керзона» ізноў ператварылася ў мяжу паміж Расеяй і Захадам. А што Беларусь? Беларусь сваёй палітыкай паставіла сябе адназначна на бок Расеі, добраахвотна выйшла па-за межы заходняй цывілізацыі і сталася рычагом («плячом») для вайсковых камунікацыяў расейскага войска.

Калі адбудзецца аб'яднаньне з Расеяй у любых формах (канфедэрацыя, уваходжаньне і да т.п.), беларускія вайскоўцы ня змогуць ігнараваць інтарэсы расейскага Генштабу. Дый і беларускае войска перастане існаваць разам са сваім Галоўнакамандуючым. НАТА і расейскі Генштаб нарэшце падзеляць Еўропу, зрабіўшы з Беларусі «корак» у гарлавіне паміж Прыбалтыкай і Украінай.

Усталюецца сапраўднае супрацьстаяньне, прычым, Расеі наўрад ці ўдасца ўцягнуць у антынатаўскі блок каго-небудзь іншага, акрамя Беларусі. Ізноў Беларусь будзе галоўным тэатрам ваенных дзеяньняў. Сёньня - на мапах штабных вучэньняў. Хто ведае пэўна, што будзе заўтра?

Пакуль у Расеі і НАТА няма прычынаў ваяваць . Разам з тым,калі напружанасьць павялічыцца, бакі будуць лічыць адзін другога патэнцыйнымі ворагамі. Любая палітычная памылка будзе напружанасьць узмацняць. Хочаш міру - рыхтуйся да вайны.

Адзінае выйсьце для Беларусі, а таксама для НАТА і Расеі - гэта зьліквідаваць «лінію Керзона» (ня блытаць з дзяржаўнай беларуска-польскай мяжой). Як гэта зрабіць?

Вось гэтага я ,ст.сяржант запасу, ня ведаю.Дакладна вядома толькі адно— прэзідэнт Лукашэнка сваімі дзеяньнямі яе не ліквідуе,а рэанімуе.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

